АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

24 – 30 СНЕЖНЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 40000 РУБЛЁЎ
№52 (244)

НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ

| Субота, 25 снежня | | | Нядзеля, 26 снежня | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Мінск | Вільня | | Мінск | Вільня |
| Уначы | -4°С | -4°С | Уначы | 0°С | 0°С |
| Удзень | 0°С | 0°С | Удзень | 0°С | 0°С |





СМАРГОНЬ

## Лекары свідравін–2000

Да надаўняга часу аднаўленне газавых і нафтавых свідравін у дзяржавах СНД вялося традыцыйным спосабам: апускалася некалькі звычайных паміж сабой труб, яны паступова нарошчваліся, свідравіны ачышчаліся.

Новую тэхналогію прапанавалі канструктары і спецыялісты завода аптычнага станкабудавання: цэльнаметалічная труба даўжынёй да 3000 метраў, змантіраваная на шасі вялікагрузнага аўтамабіля, апускаецца ў свідравіну і аднаўляе яе.

Такой тэхналогіі ў СНД яшчэ няма. Таму асваенне гэтай прадукцыі і яе наступны выпуск дазволяць ужо ў 2000 годзе калектыву смаргонскага завода рэзка павялічыць аб'ёмы вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі. Заказы ёсць.

*Павел МАКЛЮК.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Кацельню №1 перавялі на газ

У аўторак адна з двзюх цэнтральных кацельняў горада пераведзена на газ. Дагэтуль кацельня №1 у Гелянове працавала толькі на мазуце. Пры падрыхтоўчых мерапрыемствах пабудавана 2,5 кіламетра магістральных сетак.

– Перавод на газ – гэта цэлы комплекс мерапрыемстваў, – гаворыць намеснік дырэктара Маладзечанскіх электрасетак **Леанід Кузняцоў**, – можа, насельніцтва гэтага не адчуе. Бо цяпло ў кватэрах, прычым, любую тэмпературу, мы можам забяспечваць як газам, так і мазутам.

Маладзечанцы першыя ў краіне ўкараняюць на катле сістэму комплекснага кіравання на базе мікрапрацэсарнай тэхнікі. Гэта дазволіць аўтаматычна кіраваць усімі рэжымамі.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

МЯДЗЕЛ

## Навагоднія сюжэты з Крывічоў і Ілава

Тэлевізійшчыкі праграмы "Добрай раніцы, Беларусь" здымалі майстроў Крывіцкага цэнтра рамёстваў: разьбяра **Пятра Забіяку** і мастачку па вязанні кручком **Галіну Пташнік**. Наведалі работнікі БТ Ілаўскі плодакансервавы завод. Сюжэты пройдуць у апошнія дні гэтага года ці ў пачатку наступнага.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

ВІЛЕЙКА

## Ля "Зеніта" жывуць 150 шчаслівчыкаў

Гараджанаў чакае навагодні сюрпрыз: на 150 абанентаў пашырыцца гарадская тэлефонная сетка. Шчаслівцы жывуць у мікрараёне "Зеніт".

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

ВАЛОЖЫН

## Іронія лёсу, або з лёгкай парай

Напярэдадні Новага года ў горадзе адбылася сапраўдная падзея: адкрылася мужчынскае аддзяленне гарадской лазні.

Гарачая вада раз–пораз з'яўляецца толькі ў мікрараёне "Сельгастэхніка". Дагэтуль больш за год валожынцы мыліся ў адным аддзяленні лазні. Па чацвяргах і пятніцах жанчыны, у суботу і нядзелю – мужчыны.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

МЯДЗЕЛ

## Гуляць, дык у «Нарачы»

Шмат жадаючых сустрэць Новы год у турбазе "Нарач". Каля 3/4 месцаў ужо прададзена. І гэта нягледзячы на кошт трохдзённага тура – ад 80 мільёнаў рублёў.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

ВІЛЕЙКА

## Крах мэблевай манаполіі

У ранейшага манапаліста на гандаль мэбляй МП "Утульнасць" з'явіўся канкурэнт. Прадаюць цяпер мэблю і па вуліцы Савецкай. Магазін належыць прадпрыемству "Садружнасць" (пераемнік харчпрамгандлю).

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

ВАЛОЖЫН

## Школа нявест

Старшакласніцы СШ №1, якія наведваюць заняткі аб'яднання "Грацыя", распрацавалі асенне–зімовую калекцыю адзення, самі пашылі і цяпер дэманструюць навінку перад моладдзю горада.

"Грацыя" створаная пры раённым цэнтры культуры. З будучымі нявестамі займаюцца харэаграфій, шэйпінгам, вывучаюць з імі псіхалогію зносін і мастацтва стылю.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ВІЛЕЙКА

## Мода на пасвячэнні

У СШ №3 пасвячалі ў ліцэісты. З гэтага навучальнага года ў школе ёсць 2 ліцэйскія класы: медыка–біялагічны і прававы.

На ўрачыстасць прыехалі першы прарэктар Мінскага медінстытута **Сяргей Дзянісаў**, выкладчыкі ўстановы, намеснік начальніка УУС Мінскага аблвыканкома **Андрэй Пыж**. Пасля сустрэчы за круглым сталом ліцэістам уручалі адпаведныя пасведчанні, былі хлеб–соль, клятвы на вернасць будучай прафесіі.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

# Службіст «асіраціў» міну

### З–за непрафесіяналізму знаходка магла адабраць жыцці людзей

МАЛАДЗЕЧНА. У сераду ў 10[30] ля дома №9 па вуліцы Ясінскага (Гелянова) будаўнікі адкапалі баявую мінамётную міну часоў Другой сусветнай вайны.

– Мне яна на нагу ўпала, – гаворыць рабочы **Аляксандр Громаў**, – адразу вызначыў: мінамётная, радыус паражэння 200 метраў.

Аляксандр адказвае за свае словы, бо ў мінулым ён – кадравы ваенны.

Работнікі маладзечанскага ўчастка ААТ "Газбуд" у дворы пракладвалі лінію пад прыродны газ. Громаў знаходзіўся ў траншэі, калі адчуў і заўважыў міну.

– Адразу выклікалі міліцыю, вайскоўцаў, – расказвае майстар участка **Аляксандр Куляшоў**.

Дзесьці праз гадзіну прыехаў міліцэйскі "УАЗ". Чалавек у цывільным, які выйшаў з кабіны, знаходку аднёс ад траншэі і паклаў на клумбу ў паўметры ад ходніка тратуара. І з'ехаў.

Рабочыя займаліся сваёй справай. А карэспандэнт "РГ" разам з жыхаром дома **Валерыем Дзядэнкам** ганяў ад знаходкі дзяцей. Такія рэчы заўсёды выклікаюць у малых цікавасць. Быў час, калі мы адыходзілі па справах, і тады міна "сіроцінкай" выглядала на белым снезе.

Праз паўгадзіны падышлі два сяржанты міліцыі. Накрылі міну скрыняй і наладзілі ахову. Пазней прыехалі ваенныя і небяспеку звезлі на палігон.

– Для мяне гэтае жалеззе не навінка, – гаворыць Аляксандр Громаў, – з рознымі ваеннымі рэчамі даводзілася мець справу. Аднак першы раз бачыў службіста, які спакойна паклаў міну на адкрытае месца і з'ехаў. А калі б нехта яе нагамі пакатаў? Дый ёмістасць з газам для навакольных дамоў у 20 метрах.

Жыхарам гэтага дома "шанцуе" на такія знаходкі. Больш за 10 год таму крыху далей ад цяперашняга месца таксама пры будаўнічых работах знайшлі артснарад. Тады ваенкамат паставіў пост і выклікаў сапёраў з Мінска. А пакуль тыя ўсё не прыязджалі, каля тыдня жыхары падкармлівалі салдата–вартавога.

– Па смерці ходзім, – гавораць людзі, – не памятаем, каб месцы знаходак і тэрыторыю побач дэталёва абследавалі на наяўнасць бомбаў, мін, снарадаў.

Старажылы сцвярджаюць, што ў гэтых месцах падчас апошняй вайны стаялі нямецкія бліндажы. І цягнуліся аж да Здземелева.

*Сяргей АНДРЭЎ.*



Месца небяспечнай знаходкі.

ФОТА СЯРГЕЯ АНДРЭЕВА.

МЯСЦОВАЕ САМАКІРАВАННЕ

# Дэпутаты зацвердзілі герб горада



ФРАГМЕНТ ІЛЮСТРАЦЫІ АБРАЗА – БОЖАЯ МАЦІ З ПАКРОВАМ.

МАЛАДЗЕЧНА. Дэпутаты гарадскога Савета ў аўторак зацвердзілі новы герб горада.

– Паднеслі землякам падарунак на Новы год, – жартавалі яны пазней.

У ліпені мінулага года Мінскі аблвыканкам прыняў рашэнне "Аб распрацоўцы новых і ўзнаўленні гістарычных гербаў гарадоў і пасёлкаў Мінскай вобласці". Для гэтай работы на месцах стварылі адпаведныя камісіі. У Маладзечне абвясцілі конкурс на лепшы эскіз новага герба.

Трохліснік папараці, распрацаваны мастаком **Юрыем Герасімёнкам** да 600–годдзя горада (юбілей адзначаўся ў 1988 годзе), сталічныя геральдысты не зацвердзілі. Як і новыя эскізы агляду–конкурсу. Праўда, прызнаюць, што работы маладзечанскіх мастакоў **Лазоўскага, Аўчыннікава, Лазара, Пятрова** былі выкананыя прафесійна. Аднак не вытрымалі былі патрабаванні геральдыкі.

Сталічныя спецыялісты самі прапанавалі паслугі па распрацоўцы герба Маладзечна. На сесію дэпутатаў Маладзечна гарсавета ў кастрычніку было вынесена тры эскізы сталічнай "вытворчасці". Усе – рэлігійнай тэматыкі. Дэпутаты не паспяшаліся зацвярджаць ніводны з варыянтаў, вынеслі іх на грамадскае абмеркаванне.

Цяпер на сесіі высветлілася, што адзін з эскізаў геральдысты "змалявалі" з абраза ці з кнігі "Іканапіс Беларусі XV–XVIII стагоддзяў" (выдавецтва "Беларусь", Мінск, 1998 г.). Гэты абраз выяўлены экспедыцыяй дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1970 годзе на званіцы Пакроўскай царквы Маладзечна.

Такі ход спраў пераканаў дэпутатаў. І яны зацвердзілі гербам выяву Маці Божай са старога абраза.

Калі такі герб росквіту гораду і не прынясе, то аберажэ яго абавязкова, меркавалі дэпутаты. Маўляў, толькі б не было вайны.

Прагучала і пажаданне вярнуць гораду стары абраз, які знаходзіцца цяпер у нацыянальным Мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.

На сваё ж пытанні (дзе будзе выкарыстаны ў горадзе прыняты герб – значках, буклетах) – самі дэпутаты і адказалі:

– На гарадскіх грашовых знаках.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

СТАРЫ АЛЬБОМ




ФОТА З ФОНДАЎ МІНСКАГА АБЛАСНОГА КРАЯЗНАЎЧАГА МУЗЕЯ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ.

# Вуліца Замкавая

Вуліца Замкавая ў Маладзечне. 20–я гады нашага стагоддзя. Мястэчка ўжо мае тэлеграф (слупы паабапал дарогі), але па–ранейшым асноўны від транспарту – конныя калёсы. Дарога разбітая, бо побач, ля царквы, рэгулярна працуе базар. Як і сёння, базарныя дні былі ў сераду і нядзелю. Але цяпер ні кірмашу, ні базару няма, і адзінокі гарадзянін выйшаў пагрэцца на сонейку ды паглядзець, ці праедзе хто з Гарадка на Вілейку, ці якісьці запознены паніч з боку Вязыні ці Ілы праімчыцца на двуколцы ў бок чыгуначнай станцыі, якая яшчэ не злілася з мястэчкам. Цягнік на Вільню стаіць пад парай!

*Мікола ГАЙДУК.*

АДУКАЦЫЯ

## Асаблівасці 10–бальнай сістэмы

*РАДАШКОВІЧЫ. З 1998 года адзін з НДІ Мінска праводзіць эксперыменты па рэфармаванні школы (у 5–6 класах) у 20 СШ краіны. У тым ліку, і ў Радашковічах. А з 1 снежня мясцовая школа перайшла на 10–бальную сістэму ацэнак ведаў вучняў.*

Малады спецыяліст **Алена Кананчук** выкладае рускую мову і літаратуру:

– 10–бальная сістэма дазваляе глыбей ацаніць веды вучня, што даволі цяжка спачатку.

**Тамара**, маці вучаніцы 8 класа:

– Поўная блытаніна з адзнакамі. Ніяк не запомню, які бал адпавядае якой адзнацы. Не бачу сэнсу ў новай сістэме.

**Марына**, вучаніца 10 класа:

– Патрабаванні настаўнікаў да нас сталі вышэйшыя. Раней за адказ калі і паставяць "5" з мінусам, то ў журнал ідзе "5" без мінуса. А цяпер на вышэйшы бал – "10" – трэба "геніем" быць. Чым адрозніваюцца ранейшыя "4" з мінусам ад "3" з плюсам (г. зн., "5" і "4" новыя балы адпаведна)?

Меркаванні, як відаць, розныя. Несумненна, і вучняў, і педагогаў чакаюць цяжкасці пры пераходзе на новую сістэму. Упарціцца ім будзе, у першую чаргу, лянівы. Хаця толькі час можа паказаць, наколькі эфектыўнае новаўвядзенне ў ацэнцы ведаў вучняў.

*Надзея ЛІСАВА.*

**ДАРЭЧЫ.** Дзесяцібальная сістэма ўключае ў сябе: **10 балаў** – ранейшыя **"5" з плюсам** (ставіцца адоранаму школьніку, які ўмее вырашаць нестандартныя задачы)

| | |
|---|---|
| 9 балаў – 5 | 4 балы – 3+ |
| 8 балаў – 5- | 3 балы – 3 |
| 7 балаў – 4+ | 2 балы – 3- |
| 6 балаў – 4 | 1 бал – 2 |
| 5 балаў – 4- | 0 балаў – 1 |

АЎКЦЫЁНЫ

## Лес – на пні

АСТРАВЕЦ. На апошнім аўкцыёне па продажы лесу на пні мясцовы ляхгас выставіў на продаж 1900 кубаметраў лесу. Раскупілі ўсё. Удзельнічалі ў таргах як добраведомыя лесаводам фірмы – "Консул–2" (Ашмяны), "Савдос" (Смаргонь), КБМ (Астравец), так і "навічкі" – ВКФ "Рэгал" з Гродна і ГПС "Сервіс" з Мінска. Канчатковы кошт драўніны перавысіў першапачатковы ў сярэднім у 2,5 раза. Ляхгас пасля аўкцыёна папоўніў свой рахунак 80% розніцы ў кошце.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

РЭКАНСТРУКЦЫІ

## Нараджаецца музей

СМАРГОНЬ. Па вялікім рахунку, свайго краязнаўчага музея ў горадзе не было. А тое, што ім называлася, выкарыстоўвалася як выставачная зала. Між тым, у запасніках накапілася шмат цікавых рэчаў, звязаных з гісторыяй, жыццём і побытам наваколля.

І вось нядаўна з будынка па вуліцы Я. Коласа, дзе другі паверх займаў музей, высяліліся гандляры з магазінамі «Вясёлка» і «Калі ласка». Увесь двухпавярховы гмах цяпер перададзены музею, заказваецца праектна-каштарысная дакументацыя на рэканструкцыю.

*Павел МАКЛЮК.*

«РГ»–СТАТЫСТЫКА

## Смаргонь багатая на беспрацоўных

СМАРГОНЬ. Нягледзячы на меры, што прымаюцца мясцовымі ўладамі, беспрацоўе ў Смаргоні памяншаецца досыць марудна. Цяпер ягоны ўзровень складае 4,02% ад працаздольнага насельніцтва. Гэта самы высокі на Гродзеншчыне і адзін з найвышэйшых па Беларусі паказчыкаў.

*Павел МАКЛЮК.*

АЎТА–МОТА

## У Смаргоні большае гаражоў

СМАРГОНЬ. У горадзе арганізаваны яшчэ адзін, дзесяты па ліку, гаражна-будаўнічы кааператыў.

У яго аб'ядналіся 77 уладальнікаў аўтамабіляў, якія не мелі раней гаражоў і жывуць у кампактным Заходнім мікрараёне.

*Павел МАКЛЮК.*

ІНТЭГРАЦЫЯ

## Выбары ў Расеі паказалі, як далёка гэтай краіне да сапраўднае дэмакратыі

Пад такой назвай з'явілася заява для прэсы Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне" і партыі БНФ за подпісам Вінцука Вячоркі.

Думскія выбары ў Расеі не прынеслі нечаканасцяў – бальшыню ў Думе зноў набралі камуністы, – канстатуецца ў заяве. – Не менш небяспечна для ўсіх суседзяў Расеі тое, што канкурэнты камуністаў зрабілі стаўку на імперыялізм як палітычны аргумент і на вайну як сродак здабыцця папулярнасці. Адзіная партыя, якая асудзіла як вайну ў Чачні, так і "саюзную дамову" з Беларуссю, заняла апошняе месца над 5% бар"ерам.

БНФ "Адраджэнне" выказвае трывогу замацаваннем пазіцый імперыялізму ў расейскай палітыцы. Гэты працэс небяспечны не толькі для лёсу беларускае незалежнае дзяржаўнасці, але для перспектываў стабільнасці і дэмакратыі на Усходняй Еўропе і ўсім свеце.

*Аддзел інфармацыі.*

ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

## «Чорны Бор» пачаў прыёмку смецця

СМАРГОНЬ. Сваёй паўночна-усходняй часткай Смаргонь ужо ўшчыльную наблізілася да існуючай гарадской звалкі. Закрыць яе было проста, але куды тады везці смецце?

І вось даўгабуд - палігон цвёрдых бытавых адходаў «Чорны Бор» - пачаў прыёмку смецця. У строй уведзена першая яго чарга. Старую звалку засыплюць і рэкультывуюць. Праз дзесятак год мала хто і прыгадае, што пад маладым хвойнікам дагнівае гарадскі бруд.

*Павел МАКЛЮК.*

ЮБІЛЕІ

# «Зубраня», які застаўся дзяржаўным

*МЯДЗЕЛ. Рэспубліканскі піянерлагер "Зубраня" сёлета адзначыў 30–годдзе. Той святочны дзень стаў суцэльным канцэртам — апрача сваёй самадзейнасці, павесяліць дзятву прыехалі парадыст Уладзімір Радзівілаў, спявачка Вікторыя Алешка, быў і Эдуард Ханок.*

Што асаблівага запомнілася з першых год? Успамінае "старажыл" летніка **Маргарыта Ісаева** (тады важатая, а цяпер загадчыца бібліятэкі):

– Уразіла першая гадавіна: так шмат гасцей, так усё урачыста; нам тады шэфы з вайсковай часці ў Паставах самалёт падарылі. А нашы знакамітыя конкурсы бальных танцаў, інсцэніраванай песні, спартакіяды, зарніцы...

У першую змену "Зубраня" прыняў 180 піянераў ды камсамольцаў, а цяпер адпачывае тут 600 дзяцей у час вучобы, а на летніх канікулах - і да 700.

РПЛ "Зубраня" застаўся адзіным на постсавецкай прасторы летнікам такога маштабу, які знаходзіцца ў юрысдыкцыі дзяржавы. Гэта база для правядзення конкурсаў, злётаў дзіцячых аб'яднанняў рэспублікі.

Адпачываюць тут не толькі беларусы. Пяць год прыязджаюць у "Зубраня" дзеці з Франкфурта–на–Майне. Што іх асабліва цікавіць, дык гэта культура нашай вёскі: калодзеж, сялянскі дом, як ён пабудаваны. Для іх такое нібы з іншай планеты.

Гэта не адзіны праект абмену. Падключаюцца Латвія з Літвой, Расія і Малдова. Летам наведалі "Зубраня" гульцы з англійскіх футбольных клубаў "Манчэстэр Юнайтэд", "Ліверпуль". Далі дзецям колькі ўрокаў валодання мячом. Адпачывала тут юнацкая каманда з Полацка, згулялі госці з "туманнага Альбіёна" з ёй матч і... прайгралі. Паддаліся, натуральна, а дзецям на ўсё жыццё памяць.

Калектыў у "Зубраняці" малады. Шмат хто з кіруючых кадраў прайшоў школу важатых. Гэта, у прыватнасці, намеснік начальніка ўпраўлення летніка па выхаваўчай рабоце **Уладзімір Гардзей**:

– Кожная змена у нас мае свой профіль. Мы не проста збіраем дзяцей з усяе Беларусі: "давайце будзем гуляць". Калі няма арганізацыі, якая заказвае профіль, то мы яго вызначаем самі і на базе гэтага будуем сваю работу. У "Зубраняці" мы ставім дзяцей на прыступку вышэй, чым у школе. Там патрабуюць слянога падпарадкавання, калі настаўнік – то ён неаспрэчны аўтарытэт, а мы гэты аўтарытэт зарабляем нармальнай дэмакратычнай работай з дзецьмі.

Нядаўна дэлегацыя летніка стала лаўрэатам прэзентацыі творчых праграм для дзяцей "Горад усмешак", якая праходзіла ў Нікалаеве, што на Украіне.

Цяпер у "Зубраняці" будуецца чацверты корпус, рабочая назва якога "Сонечны". Ён будзе адпавядаць еўрапейскім стандартам: пакоі на двух чалавек з усімі выгодамі, своеасаблівыя "міні–люксікі". Завершаць гэты корпус – па такім жа прыкладзе пачнецца паэтапная рэканструкцыя і астатніх: там цяпер пакоі на 10–11 чалавек. Так, мяняецца канцэпцыя выхавання (раней на першым месцы быў калектыў, цяпер жа – асоба), мяняецца і "Зубраня".

*Алесь ВЫСОЦКІ.*






На ўездзе ў летнік стаіць указальнік "Зубраня". Непасрэдна перад варотамі назва мяняецца на каменнае "Зубронак". Цікава, што пра гісторыю надпісу ніхто ўжо дакладна не ведае: маўляў, даўно гэта было, такія грамацеі ладзілі...



У вядомай розным пакаленням адпачывальнікаў "хатцы" мяркуецца адкрыць кіёск.

ФОТА ДЗМІТРЫЯ ХАРЫТОНАВА.

*У ПАДАТКОВАЙ ІНСПЕКЦЫІ*

# Дэклараванне сукупнага гадавога даходу

З уступленнем у дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб падаходным падатку з грамадзян" з 1.01.99 г. аб'ектам падаткаабкладання з'яўляецца сукупны даход фізічных асоб у грашовай і натуральнай форме, атрыманы імі на працягу каляндарнага года.

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь, а таксама іншаземныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна знаходзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, абавязаныя не пазней за 1 сакавіка прадаставіць у падатковы орган па месцы жыхарства дэкларацыю аб сукупным гадавым даходзе за мінулы каляндарны год.

Дэкларацыя аб сукупным гадавым даходзе прадастаўляецца фізічнымі асобамі, якія здзяйсняюць прадпрымальніцкую дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, незалежна ад памеру атрыманага даходу ў каляндарным годзе.

Дэкларацыю аб сукупным даходзе не прадастаўляюць фізічныя асобы:

– якія атрымалі ў мінулым каляндарным годзе даходы па месцы асноўнай работы (службы, вучобы), хаця б і мянялі на працягу справаздачнага года месца асноўнай работы (службы, вучобы), за выключэннем асоб, што атрымалі даходы па ранейшым месцы работы (службы, вучобы) пасля свайго звальнення;

– якія атрымалі на працягу года толькі даходы па грамадзянска–прававых дагаворах ад адной крыніцы выплаты (юрыдычнай асобы або прадпрымальніка);

– якія атрымалі даходы, што льгатуюцца ў адпаведнасці з пунктам 1 артыкула 3 Закона "Аб падаходным падатку з фізічных асоб";

– якія атрымалі даходы ад розных крыніц, калі іх сукупны гадавы даход не перавысіў 227 млн. руб. (240 сярэднемесячных МЗП), з якога падлічэнне падаходнага падатку рабілася па мінімальнай стаўцы 9%;

– якія атрымалі даходы толькі ў выглядзе дывідэндаў па акцыях, а таксама даходы, што атрымліваюць пры размеркаванні прыбытку юрыдычнай асобы, у тым ліку, у выглядзе працэнтаў на ўклады ў статутны фонд, а таксама сумы аўтарскіх узнагароджанняў, якія выплачваюцца нашчадкам аўтараў і нашчадкам асоб, што з'яўляюцца суб'ектамі сумежных правоў;

– якія атрымалі даходы, што ўтвараюцца ў выніку ліквідацыі або рэарганізацыі юрыдычных асоб, а таксама ў выніку змянення долі (паю) фізічнай асобы.

Ва ўсіх астатніх выпадках грамадзяне абавязаныя прадаставіць дэкларацыю аб сукупным гадавым даходзе.

Дэкларацыя аб сукупным гадавым даходзе ўяўляе сабой пісьмовую заяву грамадзяніна на бланку ўстаноўленай формы аб атрыманых на працягу каляндарнага года даходах, праведзеных расходах, звязаных з атрыманнем гэтых даходаў, а таксама аб сумах утрыманых падаткаў з гэтых даходаў, звестках пра льготы, права на якія мае грамадзянін, які падае дэкларацыю.

Падставай для запаўнення дэкларацыі з'яўляюцца дадзеныя ўліку даходаў, які вядзецца фізічнай асобай у адвольнай форме, а таксама ў абавязковым парадку даведкі юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў аб сумах налічанага даходу, памерах прадастаўленых ільгот і сумах утрыманага падатку. У адпаведнасці з Законам, юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі абавязаныя выдаваць грамадзянам згаданыя даведкі па месцы асноўнай работы ў пяцідзённы тэрмін пры іх звароце, а не па месцы асноўнай работы – адначасова з выплатай даходаў.

З інфармацыяй па дэклараванні сукупнага гадавога даходу можна азнаёміцца ў наступных выданнях:

"Национальная экономическая газета", 1999 г., №19, №50. Газета "Республика", 1999 г. ад 5, 12 мая. Часопіс "Главный бухгалтер", 1999 г. №18, №31, №46, а таксама ў інспекцыі Дзяржаўнага падатковага камітэта па г. Маладзечна, вул. Віленская, 1, каб. №16, №23. Тэл. 70543, 71572.

***Тамара ГЕРКО, галоўны падатковы інспектар інспекцыі Дзяржаўнага падатковага камітэта па г. Маладзечна.***

*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

## Курсы валют НБ РБ

| | 16 снежня | 23 снежня |
|---|---|---|
| Долар | 318 000,00 руб. | 320 000,00 руб. |
| Марка Герм. | 163 322,48 руб. | 165 192,27 руб. |
| Літ | 79 301,75 руб. | 79 978,01 руб. |
| Рас. руб. | 11 860,00 руб. | 11 960,00 руб. |
| Злоты | 75 230,66 руб. | 77 669,90 руб. |
| ЕЎРА | 319 431,00 руб. | 323 088,00 руб. |

## «Вулічныя» курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 720 000–750 000 руб. | 745 000–770 000 руб. |

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (тыс. руб.) 15.12 | 22.12 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 820 | **820** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 2860 | **3170** |
| Сасіскі | 1 кг | 641 | **641** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 620 | **630** |
| Рыс | 1 кг | 380 | **380** |
| Грэчка | 1 кг | 550 | **540** |
| Цукар | 1 кг | 235 | **235** |
| Алей | 1 л | 560 | **580** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | – | **–** |
| Маянэз | 250 г | 140 | **150** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 780 | **800** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 260 | **300** |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 200 | **220** |
| Лімоны | 1 кг | 650 | **630** |
| Бананы | 1 кг | 450 | **480** |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 160 | **150** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 400 | **400** |
| Масла | 1 кг | 1300 | **1300** |
| Тварог | 1 кг | 500 | **400** |
| Малако | 1,5 л | 180 | **180** |
| Бульба | вял.вядро | 600 | **600** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 700 | **700** |
| Яблыкі | 1 кг | 300-400 | **300-400** |
| Капуста | 1 кг | 100 | **90** |
| Морква | 1 кг | 150 | **150** |

*СУЧАСНАСЦЬ І ПРАГНОЗ*

# У 2000 годзе чакаюцца сур'ёзныя праблемы з будаўніцтвам жылля, харчаваннем і палівам

*МАЛАДЗЕЧНА. Нядаўняя сесія гарадскога Савета дэпутатаў аптымізму маладзечанцам не прынесла. Самае крыўднае, што большасць з існуючых праблемаў не вырашальная ні дэпутатамі, ні "вертыкаллю". Гэта той выпадак, калі жаданне ёсць, але няма магчымасці.*

Намеснік старшыні Мінскага абласнога выканаўчага камітэта **Канстанцін Туровіч:**

– Сельская гаспадарка Маладзечанскага раёна забяспечаная кармамі на 37%. Дакладна – гэтага хопіць на студзень. Што далей, цяжка сказаць. Магчыма, будзем завозіць кармы ў раён. Інакш можам згубіць жывёлагадоўлю, як галіну сельскай гаспадаркі. У панядзелак на пашыраным пасяджэнні аблвыканкома адзін з прысутных пачаў выступленне з лозунга: "Беларусь у небяспецы!". Гэта ён пра сітуацыю на вёсцы. Сёння камандная сістэма ў гаспадарках сябе не апраўдвае. Яе трэба мяняць.

Старшыня Маладзечанскага гарвыканкома **Станіслаў Татарыновіч:**

– Вобласць давяла гораду заданне пабудаваць у наступным годзе 40 тысяч квадратных метраў жылля. Усяго каля 6 тысяч квадратных метраў засвоім за кошт крэдытавання. Астатнія грошы будзем шукаць. Наогул, вобласць прафінансуе будаўніцтва тых аб'ектаў, ступень гатоўнасці якіх 70–80%.

Галоўны ўрач дзіцячай бальніцы **Уладзімір Шаёўка:**

– Яшчэ ў 1987 годзе пачалося будаўніцтва корпуса дзіцячай бальніцы. Трэба звярнуцца да прэзідэнта, у Міністэрства аховы здароўя, аблвыканком, каб скончыць гэтую будоўлю.

Дэпутаты Паўночнага (Залінейнага) мікрараёна:

– 20 год таму мікрараён называлі "раскольніцкім" або "пяцідзесятнікаў". Цяпер ён атрымаў новую назву: "Людзі на балоце". З 40 дарог там толькі 4 маюць добры стан. Ні прайсці, ні праехаць. Жудасна выглядаюць і цэнтральныя: імя Ларына, Мядзельская. А жыве там 10 тысяч чалавек.

Ад камуністаў горада – **Барыс Казакоў:**

– Могілкі герояў вайны зараслі мохам, пакрыліся плесняй. Помнікі Леніну ля СШ №9 і гімназіі разбураюцца.

Дырэктар фірмы "Барыт" **Мікалай Батан:**

– Газ – гэта манаполія дзяржавы. Ідзе на патрэбы людзей і на патрэбы прамысловасці. Я не разумею, чаму кіраўнікі прадпрыемстваў не могуць набыць газ у тых жа камерсантаў.

***Падрыхтаваў Віталь КРУПЯНЬКОЎ.***

*ПАЛІВА–99*

# У Вілейцы адкрылася трэцяя АЗС



*Цяпер тры АЗС ёсць у Вілейцы або побач, яшчэ адна – у Ілы. На ўрачыстым адкрыцці АЗС №4 прадпрыемства "Вілейканафтапрадукт" першым кліент стаў Аляксей Ермаковіч ("Волга" ПМК–88).*

ФОТА П. А. ПАРАЦЫ.

Канчатковы каштарыс (250x$10^9$ беларускіх рублёў) у некалькі разоў большы за праектны. 8 калонак, дызайн еўрапейскі, туалеты для наведвальнікаў, камп'ютэрны ўлік.

На адкрыцці быў, дарэчы, толькі "76–ы" бензін, таму прысутныя міжволі задаваліся пытаннем: на існуючых запраўках паліва няма, адкуль на новай будзе?

Пабудаваная новая АЗС на Нарачанскай трасе, таму і з гэтай прычыны былі скептыкі: ці застанецца што віляйчанам? Іншыя, наадварот, радуюцца, што не давядзецца цяпер накручваць лішнія кіламетры, каб заправіцца на "таблетку".

***П. А. ПАРАЦЫ.***

*КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА*

## З Пухавічаў у Маладзечна па самагон

АСТРАВЕЦ. У нядзельны вечар чатыры падлеткі вырашылі падзарабіць. План дзеянняў быў не вельмі складаны. На станцыю Гудагай для мясцовага калгаса прыбыў вагон з шатраванай мукой, а жадаючых набыць танную муку колькі заўгодна. Нават калі ўсе патэнцыяльныя пакупнікі ведалі пра тое, што мука крадзеная.

У адным доме папрасілі мяхі, у другім – транспарт (веласіпед і санкі) і прыступілі да выканання задуманага. Супрацоўнікам лінейнага пункта на станцыі Гудагай удалося спыніць іх дзеянні ўжо якраз на этапе транспартавання 9 мяхоў з украдзенай мукой.

Непаўналетнія гэтыя траплялі ў поле зроку міліцыі і раней. Аднак, напэўна, меры, прынятыя да бацькоў падлеткаў, не аказалі належнага ўздзеяння.

Адзін з падлеткаў сёлета ўжо здзяйсняў кражу асабістых рэчаў і быў пад следствам. А праз колькі дзён пасля спробы кражы мукі быў дастаўлены ў лінейны пункт міліцыі ў стане алкагольнага ап'янення. Хлопец разумова адсталы (у ходзе следства прызначалася псіхіятрычная экспертыза), аднак варта, напэўна, прымаць меры да бацькоў да пазбаўлення бацькоўскіх правоў.

МАЛАДЗЕЧНА. Адной з набалелых праблем у сферы падлеткавых павапарушэнняў па–ранейшым застаецца п'янства і злачынствы на яго глебе. Напрыканцы года можна канстатаваць, што падлеткі піць не перасталі, а нават наадварот. Часам яны ўжываюць спіртное разам з бацькамі. А ў аднаго падлетка было канфіскавана 13 літраў самагону, за якім яго паслала маці з Пухавіцкага раёна ў Маладзечна.

Не з'яўляюцца ўжо стрымліваючым фактарам ні пастаноўка на ўлік у міліцыі, у псіханеўралагічных дыспансерах, ні меры, што прымаюцца па месцы вучобы непаўналетніх. Для многіх даўно перасталі быць аўтарытэтам і бацькі.

***Вадзім КУЛЯШЭЎСКІ, інспектар Маладзечанскага АУС на транспарце.***

## Фальшыўкі прыйшлі з Літвы

АСТРАВЕЦ. Факт збыту фальшывай 100–доларавай купюры быў выяўлены супрацоўнікамі аддзела эканамічных злачынстваў Астравецкага райаддзела міліцыі.

Грамадзянка Літвы П. прыехала на мясцовы рынак, каб прыкупіць сёе–тое з рэчаў. Паколькі беларускіх рублёў не было, то разлічыцца вырашыла доларамі. У міліцыі жанчына паведаміла, што набыла купюру з рук у Вільнюсе і нават не ведала, што яна фальшывая.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

## Чатыры тысячы на трох

АСТРАВЕЦ. Група крымінальнага вышуку мясцовага райаддзела міліцыі раскрыла грабеж, здзейснены ў адносінах да жыхара вёскі Кярняны Ю. тры гады таму. Затрыманая і злачынная група. У яе склад уваходзілі тры мясцовыя жыхары.

... Сусед Ю. даведаўся, што той атрымаў ад сваякоў з Амерыкі спадчыну. Вырашыў, што тымі грашыма ён павінен "падзяліцца" з ім, а таму заклікаў на дапамогу сваіх сябрукоў з Астраўца. Ноччу яны ўварваліся дамоў да Ю., збілі яго. Затым знайшлі 4000 долараў ЗША і зніклі.

Цяпер тройка дае паказанні следчаму.

***Аддзел інфармацыі.***

## Жыхары мікрараёна "Зеніт" могуць выдыхнуць паветра

ВІЛЕЙКА. Супрацоўнікі крымінальнага вышуку арыштавалі кватэрнага злодзея. Аб'ектам сваіх "вандровак" ён выбраў 5–павярхоўкі мікрараёна "Зеніт".

Пранікаў у кватэры, падбіраючы ключы. Злодзея затрымаў мужчына, які вярнуўся з магазіна і ўбачыў незнаёмага ў сваёй кватэры.

***Марына ТАЧЫНСКАЯ.***

# Бензін толькі за "баксы"

*СМАРГОНЬ–АСТРАВЕЦ. Смаргонскае прадпрыемства па забеспячэнні нафтапрадуктамі паўтара года будавала аўтазаправачную станцыю ў Астраўцы. Патрэбная яна тамтэйшым аўтааматарам, мусіць, як рыбе вада.*

Каштавала АЗС прадпрыемству 120 мільярдаў уласных грошай. Акрамя бензіну, на запраўцы ёсць і абсталяваны ўсім неабходным пункт тэхабслугоўвання аўтамабіляў. На гэтым тыдні дырэктар **Іван Гарбузаў** меркаваў адкрыць АЗС.

Падзея мясцовых аўтаўладальнікаў, хутчэй, засмуціць, чым узрадуе. Справа ў тым, што купіць бензін тут можна будзе толькі за валюту, на што існуе адпаведнае распараджэнне. Ніхто не выключае і таго, што на запраўцы будзе існаваць дэфіцыт таго ці іншага віду паліва. Хаця і "доларавага".

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ

# Крыжаванка

ад Мікалая Хадасевіча з Беразінскага



**Па гарызанталях:** 5. Сталіца краіны ў Заходняй Афрыцы. 6. Піяніст, які суправаджае танцы на балях і паказ нямых кінастужак. 9. Адкладанне рыбамі ікры і малака. 11. Возера ў Казахстане. 12. Музычна–драматычны твор, пры пастаноўцы якога дзеючыя асобы спяваюць у суправаджэнні аркестра. 13. Матэрыяльны прадмет, які служыць аб'ектам рэлігійнага пакланення. 15. Мера вагі. 17. Рыбалоўная снасць. 19. Урачысты запрашальны вечар без танцаў. 20. Амазонскае млекакормячае сям'і рачных дэльфінаў. 21. Усход. 23. Пустыня ў Афрыцы, адно з самых гарачых месцаў на Зямлі. 26. Вялікі і высокі будынак. 29. Сталіца краіны ў Амерыцы. 31. Вялікая колькасць лёду ў гарах. 32. Краіна ў Афрыцы. 33. Дрэва, млечны сок якога выкарыстоўваецца для атруты стрэл. 34. Сукупнасць пэўных вытворчых стасункаў, што вызначаюць эканамічную структуру грамадства.

**Па вертыкалях:** 1. Ровар з рухавіком. 2. Французскі філосаф–ідэаліст. 3. Рака на Паўночным Каўказе. 4. Часопіс Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь. 7. Княскі прастол у Старажытнай Русі. 8. Багіня праўды і парадку ў старажытнаегіпецкай міфалогіі. 10. Рака ў Францыі. 14. Імклівы напад войск на праціўніка. 16. Наркатычнае рэчыва. 17. Лік. 18. Праз акіян плыве велікан, а вусы ў роце хавае (загадка). 22. Падземная нахіленая выпрацоўка без выхаду на паверхню. 24. Архітэктурна афармленая крыніца. 25. Шкатулка для захоўвання мошчаў святых у царкве. 26. Голае месца, чыстая прастора. 27. Гара ў Турцыі. 28. Час года. 30. Перыядычнае паніжэнне ўзроўню вады ў моры.

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 51*

**Па гарызанталях:** 5. Партэр. 7. "Слаўны". 9. Эгіда. 12. Кенатрон. 13. Лінімент. 14. Удача. 15. Квадрыга. 16. Кызылкум. 17. Роўна. 20. Турман. 24. Уніяты. 27. Амаўроз. 28. Люгер. 29. Дуван. 30. Алеманы. 31. Эдуард. 34. Хірург. 38. Льюіс. 41. Ватрушка. 42. Атрамант. 43. Пікет. 44. Сілістра. 45. Алгарытм. 46. Таран. 47. Сквіра. 48. Глінка.

**Па вертыкалях:** 1. Камандор. 2. Старшына. 3. Гарнізон. 4. Анамалія. 6. Рэнуар. 7. Салака. 8. Сервет. 10. Ісаеў. 11. Інгуры. 18. Охабень. 19. Нурхаці. 21. Уклад. 22. Магма. 23. Нарад. 24. Уздых. 25. Інвар. 26. Тэнар. 31. Эбаніт. 32. Украінка. 33. Рашэтнік. 35. Іерогліф. 36. Удмуртка. 37. Ганута. 38. Лапата. 39. Юнкер. 40. Сатанг.

ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ



# Будзе час — будзе і квас, не ўсё за раз

***Стравы да святочнага стала. Пячэнне і пернічкі вы зможаце выкарыстаць для ўпрыгожвання ядомай "навагодняй ёлкі", рэцэпт якой будзе змешчаны ў наступным нумары "РГ".***

## Салата "Журавінка"

*100 г варанай ялавічыны, 2 салёныя агуркі, 2 цыбуліны, 50 г сушаных грыбоў, 20 г журавін.*

Для запраўкі: 2 вялікія лыжкі алею, 1 вялікая лыжка воцату, перац чорны молаты.

Вараныя ялавічыну і грыбы, рэпчатую цыбулю, агуркі салёныя нашынкаваць саломкай, кампаненты перамяшаць, паліць запраўкай. Упрыгожыць журавінамі.

## Рулет па-барысаўску

*900 г фаршу, 500 г сала, 3 яйкі, 2 морквы, часнок.*

Сала нарэзаць тонкім пластом і адбіць. На яго роўным слоем пакласці фарш. Для малюнку на фарш пакласці вараныя яйкі, моркву і скруціць у выглядзе рулета. Рулет закруціць у сурвэтку або марлю, перавязаць шпагатам і варыць да гатоўнасці. Гатовы рулет пакласці пад цяжар і астудзіць.

У латок наліць тонкі слой жэле і даць яму застыць. Затым на яго пакласці парэзаны тонкімі скрылькамі рулет, зверху ўпрыгожыць зелянінай, заліць слоем жэле і ахаладзіць.

## Пернічкі

Цеста для 40 пернічкаў: *50 г масла, 125 г мёду, 60 г цукру, 1 маленькая лыжка какава–парашку, 300 г пшанічнай мукі, 1/4 пакеціка разрыхляльніка цеста (сухія дрожджы), крыху солі, яйка.*

Сумесь для глазуры: *бялок 1 яйка, 60 г цукровай пудры, сокі рознага колеру.*

Масла, мёд, цукар і какава–парашок пакласці ў каструлю і, бесперапынна памешваючы, падаграваць на слабым агні да таго часу, пакуль цукар поўнасцю не распусціцца. Пакуль сумесь астывае, прасейце муку (папярэдне змяшайце яе з разрыхляльнікам). Усыпце ў мядовую масу, дадайце туды соль і яйка. Старанна перамяшайце ўсё драўлянай лыжкай. На пасыпанай мукой дошцы замясіце цеста, скатайце яго ў шар, загарніце ў фольгу, накрыйце міскай і пакіньце на ноч пры хатняй тэмпературы.

На наступны дзень раскатайце цеста ў пласт таўшчынёй не больш за 4 міліметры. Выражце з яго забаўныя фігуркі, разнастайныя ўпрыгожванні для ёлкі. Пакладзіце іх на змазаную маслам бляху і пастаўце ў духоўку (200 градусаў) на сярэднюю паліцу. Хвілін праз 15 гатовыя пернікі выкладзіце на блюда. Узбіце міксерам бялок у тугую пену, паступова дадаючы прасеяную цукровую пудру, каб атрымалася глазура. Падзяліце яе на некалькі частак і з дапамогай харчовых фарбавальнікаў або сокаў (журавін, бурака, морквы, апельсіна), какавы падфарбуйце ў яркія святочныя колеры. Нанясіце глазуру на кожны пернік, няхай яны крыху паляжаць. Потым трэба асцярожна пракалоць пернік зубцом відэльца, працягнуць нітачку і павесіць на ёлку ці навагодні букет.

## Пячэнне "Дракоша"

*500 г мукі, 25 г дражджэй, 60 г цукру, 1/4 л малака, 60 г маргарыну, соль, 1/2 маленькай лыжкі цэдры лімона, 1 яйка для змазкі.*

Развесці дрожджы ў цёплым малацэ, дадаць цукар і соль, перамяшаць з палавінай мукі. Пакінуць рошчыну на 25–30 хвілін у цёплым месцы, затым дадаць астатнія кампаненты і мясіць, пакуль яно не будзе адліпаць ад рук і ад сценак. На пасыпаным мукой стале раскатаць цеста ў 1 см таўшчынёй і выразаць (сустракаем жа год Дракона) фігуркі драконьчыка (можна і іншых жывёл). Можна ўпрыгожыць фігуркі, выкарыстоўваючы рэшткі цеста або проста з дапамогай нажа, зрабіць вочкі з разынак. Змазаць зверху ўзбітым яйкам і паставіць у духоўку на 12–15 хвілін пры тэмпературы 200–220 градусаў.

Пасля таго, як фігуркі астынуць, іх патрэбна распісаць глазурай (1 шклянка цукровай пудры, 1 бялок і кропелька лімоннага соку – усё ўзбіць). Выкладзіце глазуру ў цэлафанавы пакет і ў куточку мяшочка зрабіце невялікую дзірачку. Такі пакет лёгка заменіць вам кандытарскі шпрыц, ім лёгка маляваць любыя ўзоры.

*Падрыхтавала Наталля БРОЎКА.*

## ГАРАСКОП 27 СНЕЖНЯ – 2 СТУДЗЕНЯ



**Авен (21.03–20.04)**

Вы не павінны ўпадаць у эйфарыю ад назначэння на важную пасаду. Захоўвайце асцярожнасць і розум. Не нажывайце ворагаў, асабліва ў бізнесе.



**Цялец (21.04–21.05)**

Атрымаеце нядрэнныя дывідэнды ад раней пачатага дзелавога праекта. На гэтым тыдні варта ўдзяліць час сваім захапленням, чаму будуць вельмі садзейнічаць добрае самаадчуванне і цудоўны настрой.



**Блізняты (22.05–21.06)**

Трэба ўважліва вывучыць усе дэталі будучай дзелавой аперацыі і толькі пасля гэтага пачынаць дзейнічаць. У канцы тыдня набудзеце вялікую ўпэўненасць у сабе, з якой можаце брацца за новыя справы.



**Рак (22.06–23.07)**

З'явіцца мноства новых ідэй і задум, рэалізацыя якіх абяцае выдатныя вынікі. Сямейнае жыццё парадуе тых, хто не прамяняе родных ні на каго іншага.



**Леў (24.07–23.08)**

Перш, чым траціць грошы, вам лепш усё абдумаць. Сканцэнтруйцеся лепш на вырашэнні асабістых праблем, якіх у вас дастаткова.



**Дзева (24.08–23.09)**

Спадзявайцеся не на ўсіх сваіх сяброў. Тыдзень будзе паспяховы у фінансавых адносінах. На асабістым фронце чакаюцца рамантычныя прыгоды.



**Шалі (24.09–23.10)**

Павелічэнне даходаў абяцаюць новыя метады ў рабоце. Фінансавы дабрабыт не скончыцца на гэтым тыдні, а будзе працягвацца і далей.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

Завершыце важны праект, які адкрые доступ да грошай і вядомасці ў дзелавых колах. Моладзь чакаюць рамантычныя прыгоды, а людзей сямейных – вечары ў коле бліжэйшых сваякоў.



**Стралец (23.11–21.12)**

Атрымаеце капітал, які спатрэбіцца для адкрыцця ўласнай справы. Вазьміце ў партнёры добрага прафесіянала – і поспех вашай справе гарантаваны. Начаканы будзе ваш поспех у прадстаўнікоў процілеглага полу.



**Казярог (22.12–20.01)**

На гэтым тыдні не дасягнеце запаветнай мэты, але яўна наблізіцеся да яе. Казярогі творчых прафесій акажуцца ў зеніце славы, а студэнты паспяхова працягнуць пад'ём да вяршынь ведаў.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Не крыўдзіце сваіх родных несправядлівай крытыкай. У пятніцу можна і трэба звярнуць увагу на партнёрскія адносіны і задумацца пра тое, наколькі вашы партнёры надзейныя і наколькі надзейныя вы самі.



**Рыбы (20.02–20.03)**

Пачняце тыдзень з паспяховых фінансавых аперацый. Удача не будзе адварочвацца ад вас і ў астатнія дні. Будзьце менш амбіцыёзныя і больш пакладзістыя, тады справы пойдуць угору.

ПРОСТА АНЕКДОТ

У адной прыватнай цырульні быў малады вучань майстра. Неяк вучань і гаворыць шэфу:

– Тут да нас у цырульню апошнім часам наладзіўся хадзіць нейкі дзіўны мужык!

– А што за мужык? – пытаецца цырульнік.

– Ды прыходзіць штодня, кожны раз пасля абеду, заўсёды пералічвае людзей у чарзе, затым сыходзіць. Паінен хутка зноў прыйсці.

– Ты, калі ён ад нас выйдзе, ідзі за ім, а затым мне раскажаш, – кажа цырульнік.

На самой справе, праз колькі часу заходзіць добра апрануты малады чалавек і пачынае ўсіх у чарзе лічыць:

– Адзін! Два! Тры! Чатыры!! Пяць!!!

Затым паварочваецца і моўчкі ідзе на выхад. Хлопчык-вучань, як і загадана было, – за ім. Праз хвілінаў колькі вяртаецца. Цырульнік, вядома, пытаецца:

– Ну, што? Расказвай, што ён рабіў, калі ад нас пайшоў.

– Ды купіў букет кветак і пайшоў дамоў...

– Натуральны псіх, – кажа цырульнік.

– Ды не! Ён да вас дамоў пайшоў...

ШАШКІ

# Столькі г... у мяне ў калгасе няма

27 красавіка 1889 года Леў Талстой у сваім дзённіку запісаў: "Пайшоў да Дзякава. На Смаленскім гуляў у шашкі. Мне заперлі 13. Смешна, што было непрыемна". Дзякаў валодаў адной з крам на Смаленскім рынку ў Маскве, дзе збіраліся на той час мацнейшыя шашысты горада, у тым ліку, і вядомы пісьменнік, які вельмі цаніў мудрую народную гульню.

Заперці 13 – гэта значыць, пазбавіць хадоў дамку і адну простую, таму што запертая дамка раўнялася 12 запертым простым шашкам. Іх яшчэ ў народзе называлі "смярдзюкамі", і атрымаць такі зыход партыі лічылася вельмі заганнай справай. Таму бок, што прайграваў, намагаўся хутчэй аддаць свае шашкі пад бой, каб не быць аб'ектам кпінаў.

Пазней запіранне вырасла ў асобны від шашачнай кампазіцыі – задачу. Выйгрыш з запіраннем – гэта адзін з самых прыгожых прыёмаў у шашачнай гульні. Зусім рэдка ў практыцы здараецца запіранне ўсіх 12 шашак. Вось адзін з такіх выпадкаў.

Аднойчы вясной перад пасяўной я сустрэўся са старшынёй калгаса, якога шашкі не пакідалі абыякавым. Калі пагаварылі па справе, ён прапанаваў згуляць. Пачалі дамаўляцца пра інтарэс. Нарэшце, сышліся, што ў залік ідуць толькі запертыя шашкі. У якасці ўзнагароды за іх з боку старшыні быў прапанаваны прычэп гною за кожную, што было вельмі дарэчы ў тую пару. У першай партыі, як толькі сапернік убачыў, што прайграе, адразу аддаў усе свае шашкі пад бой.

Другую, чорнымі, я пачаў гуляць больш асцярожна, выбраў у адказ сіметрычны безразменны варыянт так званай гульні Філіпава. Калі ж белыя заўважылі, якая "бомба запаволенага дзеяння" ім была падкладзеная, то было позна, размену ўжо не было, а лішні тэмп застаўся ў чорных. У роспачы старшыня склаў шашачную дошку з усімі 24 шашкамі, што знаходзіліся на ёй і дадаў:

– Столькі г... у мяне ў калгасе няма. Хопіць трох прычэпаў.

Пазней сведкі гэтага выпадку вясной жартавалі:

– Згуляй яшчэ з кім–небудзь у шашкі.

Вось як праходзіла тая партыя:

1. e3-d4 d6-e5 2. a3-b4 h6-g5 3. g3-h4 b6-a5 4. b2-a3 g7-h6 5. b4-c5 g5-f4 6. a3–b4 h6-g5 7. f2-g3 c7-b6 8. g1-f2 b8-c7 9. f2-e3 c7-d6 x. Хаця ў сапернікаў яшчэ па 4 хады, але размену ўжо няма. Запертыя ўсе 12 шашак белых.

У якасці самастойнага рашэння прапануецца пазіцыя пераможцы VI Усесаюзнага чэмпіянату І. Цімкоўскага (1934 г.), які пазней быў аб'яўлены "ворагам народа" і знішчаны.



Белыя: простыя b2, c1, e7, f2, g1 (5).
Чорныя: простыя a3, b4, c5, g7, h4 (5).

Белыя пачынаюць і выйграюць з дапамогай арыгінальных прыёмаў, у тым ліку, і шляхам запірання шашак. Жадаем творчых поспехаў.

*Рашэнне эцюда А. Ракітніцкага, змешчанага ў нумары за 9–15 ліпеня*

1. cd8 ab2 (1. hg1 2. da5 g:b6 3. a:d4x) 2. da5 ba1 3. ac3 a:b6 4. a:g1x.

Першым правільны адказ "традыцыйна" даслаў А. Барташ. Яму і дастаецца прыз: кніга аўтара эцюда, якая знаходзіцца ў рэдакцыі газеты.

*Анатоль РОГАЧ, ВІЛЕЙКА.*

